Пролетарыі усіх краін, злучайцеся!

Кіраўніцтва Народна-Гаспадарчага Учота БССР

# ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ



## № 22

ВЕРАСЕНЬ 1934 Г.

МЕНСК — 1934

# I. Афіцыйны аддзел.




## Пошта-тэлеграма

### Усім старшыням сельсаветаў праз РВК

Згодна пастановы ЦВК СССР ад 27/III-34 г. органы НКАсветы, ЦСПСБ і Наргасвучота праводзяць з 1-га кастрычніка перапіс бібліатэк.

Прыдаючы вялікае значэнне гэтаму перапісу, на падставе якога ўведзена будзе планавасць у бібліатэчнай справе, ЦВК БССР прапануе вам аказаць органам НКАсветы, ЦСПСБ і Наргасвучота усебаковае садзейнічанне па выяўленню бібліатэк, прывядзенню ў парадак кніжных фондаў і сваечасоваму запаўненню і звароту перапісных бланкаў.

Уключыць ў гэту работу культсекцыю і культактыў.

Сакратар ЦВК БССР *Леўкоў*

№ 90—п.—19.
13/IX—1934 г.

---

Б.С.С.Р.

Центральны Совет Прафесіанальных Саюзаў Белорусіі
11 верасня 34 г.
№ 3.

### Старшыні фабзаўкома.

Кіраўніцтвам Наргасучота БССР праводзіцца адначасовае выбарачнае абследванне дыферэнцыяцыі зарплаты (па прафесіям і разрадам) у 65 прадпрыемствах, будаўніцтвах і саўгасах Рэспублікі.

У прамысловых прадпрыёмствах праца будзе праводзіцца за кастрычнік м-ц, ў будаўніцтве і саўгасах за верасень м-ц г. г.

Абследванне у прампрадпрыёмствах пачнецца ў лістападзе і павінна быць скончана ня пазней 15 снежня, а падрыхтоўка разліковых ведамасцей пачнецца у верасні-кастрычніку м-цы.

Абследванне дыфферэнцыацыі зарплаты ў саўгасах і будаўніцтве пачынаецца ў кастрычніку і павінна быць скончана не пазней 15 лістапада, а падрыхтоўчая праца ў саўгасах і будаўніцтве пачынаецца ў гэтым-же верасні м-цы.

Надаючы вялікае значэнне гэтай працы у справе правідловага рэгулявання зарплаты рабочых, у мэтах своечасовага правядзення падрыхтоўчай працы разліковымі адзеламі абследуемых прадпрыемств, своячасовага і добраякаснага правядзення самога абследвання, ЦСПСБ прапануе аказаць персаналу, праводзячаму абследванне, садзейнічанне у сенсе падбору работнікаў для абследвання і ў арганізацыі кантроля над своячасовым і добраякасным правядзеннем абследвання.

Старшыня ЦСПСБ *Кавальчук.*

---

# Загад

## па Кіраўніцтву народна-гаспадарчага ўчота БССР № 254, Наркамцяжпрому БССР № 193, Наркамлегпрому БССР № 168, Упоўнаркамлесу № 144, Наркамснабу № 200.

**г. Менск.** **28/VII-1934 г.**

### Аб Усесаюзным перапісу прамабсталявання.

Пастановай СПА ад 20/I-1932 г. № 29 і 28/XI-1933 г. № 1052 на Цэнтральнае Кіраўніцтва народна-гаспадарчага учота Дзяржплана СССР і яго органы на мясцох ускладзена правядзенне ў 1934 г. Усесаюзнага перапіса прамабсталявання.

Перапісу падлягаюць усе прадпрыемствы ўсіх ведамстваў і арганізацый пры наяўнасці ў іх электраматораў або першастковых рухавікоў (за выключэннем вадзяных калёс, ветраных рухавікоў і конскага прывода).

Рыбная прамысловасць, лесанарыхтоўкі, лесасплаў перапісу не падлягаюць.

Абсталяванне, улічанае металаапрацоўчай прамысловасцю пры перапісу у красавіку 1932 г., за выключэннем электраматораў і металургічных машын, перапісвацца не будзе. Таксама не будуць перапісвацца прадпрыемствы мукамольна-крупяной прамысловасці з лікам рабочых менш 50.

**Перапіс будзе праведзен на працягу жніўня-верасня 1934 г.**

Дата пачатка і сканчэння перапіса будзе ўстаноўлена Цэнтральным Кіраўніцтвам Наргасучота Дзяржплана СССР у арганізацыйным плане перапіса.

З А Г А Д В А Ю:

1. Усім трэстам і прадпрыемствам неадкладна выдзеліць асоб адказных за правядзенне перапіса. Прозвішча выдзеленых работнікаў паведаміць у Кіраўніцтва народнагаспадарчага учота БССР (Менск, Дом Ураду, левае крыло, 5 паверх, пакой 515, тел. 25-032). Выдзеленым таварышам устанавіць непасрэдную сувязь з Кіраўніцтвам Наргасучота БССР і точна выконваць ускладзеныя на іх функцыі арганізацыйным планам перапісу.

2. Усім прадпрыемствам прадставіць у КНГУ БССР заяўкі на фармуляры перапісу па форме Цэнтральнага КНГУ Дзяржплана СССР на працягу 5 дзён з моманту атрымання формы заяўкі.

3. Забяспечыць сканчэнне падрыхтоўчых работ да перапіса (складанне інвентарных картак, пашпартызацыя абсталявання) **не пазней 15 жніўня 34 г.**

4. Запаўненне фармуляраў перапіса правесці сіламі работнікаў прадпрыемстваў, прычым для забеспячэння адпаведнай якасці матэрыялаў перапісу да гэтай работы абавязкова прыцягнуць інжынерна-тэхнічны персанал прадпрыемстваў.

Звярнуць асаблівую ўвагу на складанне папярэдняга опісу абсталявання (ф. Г), у якім безумоўна павінен быць забяспечан поўны колькасны ахват усяго абсталявання прадпрыемства ў крытычны дзень перапісу і точна апрадзяліць назву і шыфр кожнай машыны па номенклатуры, устаноўленай для перапісу (назвы ў шыфры абсталявання, прастаўленыя ў інвентарных картках, пры перапісу павінны быць дакладна пракантраляваны).

5. Усімі фармулярамі і інструкцыямі для вытварэння перапісу прадпрыемства снабжаецца непасрэдна Кір. Наргасучота БССР. Усе ўказанні Кір. Наргасучота БССР па пытанням перапісу абсталявання для прадпрыемстваў абавязковы.

Копіі ўсіх матэрыялаў перапісу павінны быць застаўлены на прадпрыемстве. Па сканчэнні перапісу павінна быць праведзена зверка картотэкі інвентарных картак з матэрыяламі перапісу, унесены патрэбныя папраўкі ў картку і ў далейшым павінна быць забяспечана сістэматычнае

вядзенне бягучага учоту у адпаведнасці з загадам па ЦУНХУ, НКТП, НКЛП, НКЛеса, НКСнаба ад 1/XII-33 г. за № 321 і інструкцыямі ЦУНХУ Дзяржплана СССР.

Нач. Кір. Нар.-Гасп. Учота БССР *Вгадзімірскі.*
Упаўн. Нар. Ком. Цяж. Прам. *Сакаленка.*
Нар. Ком. Лег. Прам. БССР *Пехцероў.*
Упаўн. Нар. Ком. Лес. Прам. *Розін.*
Нар. Кам. Снаб. БССР *Кладовікаў.*

---

# Загад № 390

## па Кіраўніцтву Народна-Гаспадарчага Учота БССР

**г. Менск** **15/IX 1934 г.**

Загадам Нам. Начальніка ЦУНХУ СССР т. Краваля за № 189 ад 3/VII 1934 г. і маім загадам за № 258 ад 27/VII-34 г. была дана цвёрдая дырэктыва аб перабудове раёнымі інспэктарамі работы па рэгістрацыі будаўніцтва і штомесячным прадстаўленні зводкі аб ходзе жывёлагадоўчага будаўніцтва па саўгасам і калгасам не пазней 10 числа наступнага за справаздачным месяца.

Да гэтага часу не гледзячы на напамінкі зводак за ліпень не прадставілі раёны: Асвейскі, Бягомльскі, Горацкі, Клічэўскі, Крычаўскі, Лагойскі, Прапойскі, Пухавіцкі, Плешчаніцкі, Хойніцкі і Чэрвенскі. Зусім дрэнна паступаюць зводкі за жнівень—не атрымана яшчэ амаль ад паловы раёнаў.

Гэтыя факты сведчаць, што райінспэктары недаацэнілі ўсей палітычнай важнасці перабудовы работы па рэгістрацыі будаўніцтва, не скарысталі дадзеных у памяненых вышэй загадах указанняў па перабудове работы.

За невыкананне загадаў па ЦУНХУ за № 189 і майго за № 258 аб'яўляю вымову інспэктарам: т Васілеўскай—Асвейскага р-на, т. Аніхоўскаму—Горацкага р-на, т. Лукашуку—Крычаўскага р-на, т. Высоцкаму—Прапойскага р-на і т. Бабіцкаму—Чэрвенскага р-на.

Папярэджваю ўсіх інспэктароў—тэрмінова выслаць указанныя зводкі і ў далейшым акуратна дасылаць к 10-му числу, а таксама выслаць увесь матар'ял па абследванню хода будаўніцтва і рэгістрацыі будаўніцтва па саўгасам і калгасам згодна майго загаду за № 258.

Нач. КНГУ БССР *Влидзімірскі*

---

## Усім інспектарам наргасучота БССР.

Вам дасланы кнігі ф. № 3 на 1935 год у патрэбнай для Вашага раёна колькасці з тым, каб вы не пазней 1 кастрычніка поўнасцю размяркавалі іх па сельсаветам.

Неабходна дэталёва разтлумачыць работнікам сельсаветаў, што мясанарыхтоўкі 4-га квартала 1934 г. здаюцца ў лік плана 1935 года і таму патрэбна ход выканання мясанарыхтовак пачыная з 4-га квартала запаўняць у гэтых кнігах, но ні у якім разе не ўнасіць іншыя нарыхтоўкі паступаючыя ў 1934 годзе і асабіста наглядаць за іх запаўненнем.

Зварачваем вашу ўвагу на тое, што нездавальняючае і неправільнае завядзенне кнігі № 3 вельмі перашкодзіць у далейшым учотную работу ня толькі па мясапастаўкам, но і па ўсім іншым абавязкам і справіць гэтага ў дальнейшым будзе вельмі цяжка.

Нач. учотнай інсцэкцыі КНГУ БССР *Магідаў*

---

# Загад № 379.

## Па Кіраўніцтву Народна-Гаспадарчага Учота БССР

**ад 4 верасня 1934 г.**

1. Укамплектаванне участковых інспектароў праходзіць вельмі марудна, што тлумачыцца выключна неўразуменнем і недаацэнкай з боку раённых інспектароў наргасучота палітычнай важнасці гэтай справы, у выніку чаго значная частка раёнаў нават не утварылі разбіўку раёнаў на участкі і не вызначылі цэнтры участкаў.

2. Адзначыць асабліва нядбайныя адносіны і непраяўленне настойлівасці перад раённымі арганізацыямі аб выдзяленні участковых інспектароў з боку райінспектароў наргасучота: Любаньскага раёна т. Савановіча і Чырвона-Слабодскага раёна тав. Лукашевіча, якія пусцілі справу на самацёк і чакаюць дасылкі участковых інспектароў з Менску.

3. Папярэдзіць тых райінспектароў наргасучота, якія да гэтага часу не дабіліся ад раённых арганізацый выканання пастановы партыйных і урадавых органаў аб укамплектаванні участковых інспектароў, аб неабходнасці арганізацыі участковых інспектур шляхам выезда ў сельсоветы для падбора адпаведных кандыдатур не пазней 10 верасня г. г.

Нач. Кіраўніцтва Народна-Гаспадарчага
Учота БССР *Владзімірскі.*

# Загад № 372

## Па Кіраўніцтву Наргасучота БССР

ад 28/VIII—1934 г.

У пачатку 1934 г. сыстэмай Наргасучота праваджілася праца па ўстанаўленню колькасці, склада і тэхнічнага становішча машын і арудзій у сельскай гаспадарцы.

У сучасны момант папярэднія ітогі гэтай працы распрацаваны і надрукаваны.

§ 1.

Адзначаючы з боку паасобных райінспектур добрую арганізацыю работы, у выніку чаго па гэтых раёнах работа была праведзена высокаякасна з поўным ахопам гаспадарак і датэрмінова, асабліва адзначаю працу наступных райінспектур:

1. Касцюковіцкая райінспектура (інспектар Лугаўцоў), нягледзячы на вялікую колькасць калгасаў (247) у раёне здолела сабраць добраякасны матар'ял і ў тэрмін прадставіць яго ў с/г сектар КНГУ.

2. Гомельская інспектура (інспектар Флеер) закончыла працу па калгасам 5/II.

3. Віцебская (інспектар Шмэтэр) першай па БССР скончыла работу ў саўгасах і г-ках прадпрыемстваў.

ЗАГАДВАЮ:

1. Інспектара Наргасучота Касцюковіцкага р-на т. Лугаўцова прэміраваць 150 руб.

2. Эканаміста Гомельскай інспектуры т. Томберг, непасрэдна кіраваўшай працай па інвэнтарызацыі, праміраваць 100 руб.

3. Інспектара Віцебскай райінспектуры т. Шмэтэра праміраваць 100 руб.

Нам. Нач. Кір-ва Наргасучота *Кацнельсон*

---

## Усім Рэспубліканскім, Краевым і Обласным Кіраўніцтвам Наргасучота, усім раённым і гарадскім інспектарам Наргасучота, усім сельскім советам Саюза ССР.

Абавязацельствы па мясапастаўкам на 1935 год будуць урачацца здатчыкам у верасні бягучага года, а прыём мяса ў лік выканання абавязацельстваў пачнецца з 4 квартала

1934 г. Пагэтаму нагаспадарчыя кнігі ф. № 3 на 1935 год павінны быць у сельсаветах уведзены ўжо ў верасні—у пачатку кастрычніка 1934 года.

Цэнтральнае Кіраўніцтва Народна-Гаспадарчага Учота Дзяржплана СССР паведамляе вам парадак учотнай работы ў сельсаветах, звязанай з уручэннем абавязацельств і ўвядзеннем кнігі ф. № 3 на 1935 год.

1. Сельсаветы, па атрыманні ад раённых органаў Заготжывёлы бланкаў „імянных спісаў з ліцавымі рахункамя гаспадарак, прыцягваемых да абавязковай пастаўкі мяса, (ф. 46-д), запаўняюцца ў гэтых спісах толькі наступны графы: 1) № па чарзе, 2) прозвішча, імя і па бацьку здатчыка і 3) сталы номер гаспадаркі.

Сталы номер гаспадаркі бярэцца з спісаў сельсавецкага ўчота ф. № 4 за 1934 год. Такім чынам для гаспадарак, прыцягваемых да абавязковай пастаўкі мяса, новых сталых номераў гаспадарак устанаўляць ня трэба.

На калгасныя двары, аднаасобныя гаспадаркі і кулацкія гаспадаркі складаюцца паасобныя „імянныя спісы“ ф. 46-д.

2. Адначасова сельсаветы складаюць „імянны спіс гаспадарак, аслабаненных ад абавязковай пастаўкі (здачы) мяса“ (разасланы Заготжывёлай пад № 49), які накіроўваюць у РВК на зацверджане. Сталыя номера гаспадарак у гэтым спісу таксама прастаўляюцца па нумерацыі 1934 года.

3. Паказаны ў п. 1 гэтага ліста „імянны спіс з ліцавымі рахункамі гаспадарак, прыцягваемых да пастаўкі (здачы) мяса“ (ф. 46-д) сельсаветы перасылаюць раённым органам Заготжывёлы. Раённыя органы Заготжывёлы на падставе гэтых спісаў самі выпісваюць на кожнага здатчыка абавязацельства на мясапастаўку і зварачваюць „імянны спіс“ ф. № 46-д разам з абавязацельствамі ў сельсавет для раздачы абавязацельств мясаздатчыкам.

4. Абавязацельствы мясаздатчыкам уручаюцца сельсаветам пад распіску здатчыка ў „імянным спісу“ ф. 46-д.

ЗАЎВАГА: У тых выпадках, калі-чаму небудзь сталыя номера гаспадарак у „імянным спісу ф. 46-д і ў абавязацельствах, атрыманых ад органаў. Заготжывёлы, ня будуць вызначаны, сельсоветы павінны гэтыя номера гаспадарак і ў „імямным спісу“ ф. 46-д і у абавязацельствах прастувіць да уручэння абавязацельств мясаздатчыкам.

5. Пасля ўручэння абавязацельстваў мясаздатчыкам сельсавет павінен адчыніць ліцавыя рахункі гаспадаркам у кнігах ф. № 3 на 1935 год.

Кнігі ф. № 3 на 1935 год сельсаветы атрымоўваюць ад РВК.

Ліцавыя рахункі ў кніге ф. № 3 адчыняюцца ў першую чаргу усім гаспадаркам, якім уручаны абавязацельствы

на мясапастаўкі, і гаспадаркам, якія аслабанены пастановаю РВК ад мясапаставак, згодна спісаў, паказаных у п. 2 гэтага ліста.

Падставаю для запісу ў ліцавы рахунак служаць „імянныя спісы" ф. 46-д і „спісы гаспадарак, аслабаненных ад абавязковай пастаўкі мяса" (разасланы пад № 49), зацверджаныя РВК.

Пры адчыненні ліцавых рахункаў у кніге № 3 сельсаветы запаўняюць прозвішча, імя і па бацьку домагаспадара, № гаспадаркі, адзнаку аб соцыяльнай групе гаспадаркі і раздзел 2 (здача мяса).

У якасці № гаспадаркі прастаўляецца сталы номер гаспадаркі па кнігам 1934 г. (ф. № 4).

Адначасова з адчыненнем ліцавога рахунка гаспадарцы ў новай кніге ф. № 3 на 1935 год, сельсавет робіць адзнаку ў альфабэтнай кніжцы 1934 года аб номеры кнігі ф. № 3 і старонцы, на якой данай гаспадарцы адчынен рахунак.

Для гаспадарак, прыцягваемых да мясапаставак, раздзел 2 ліцавога рахунка запаўняецца так:

а) У загаловак раздзела 2 упісваецца номер абавязацельства, якое ўручана данай гаспадарцы;

б) У загаловак графы 1 „план на год" упісваецца размер усяго абавязацельства на пастаўку мяса ў 1935 гадзе;

в) Ніжэй ў графе 1-й прастаўляецца план здачы на кожны квартал 1935 года;

г) Астатнія графы раздзела 2 (здачы мяса) ліцавога рахунка ў ф. № 3 запаўняюцца ў далейшым па меры хода здачы мяса. Аб парадку запаўнення гэтых граф указанні будуць дадзены ў агульнай інструкцыі па вядзенню ўчота ў сельсаветах на 1935 г.

Для гаспадарак, якія аслабанены ад абавязковай пастаўкі мяса дзяржаве ў 1935 годзе, у раздзеле 2 ліцавога рахунка (здача мяса) рабіцца запіс такога зместу: „Ад мясапаставак аслабанена. Па спісу гаспадарак, аслабанёных ад абавязковай пастаўкі мяса, номер". У гэтым запісу прастаўляецца чарговы номер гаспадаркі па спісу, зацверджанаму РВК.

Пры адчыненні ліцавых рахункаў у кніге ф. № 3 на 1935 г. прапануецца прытрымлівацца такога парадку.

На калгаснікаў і аднаасобнікаў заводзяцца паасобныя кнігі ф. № 3.

Унутры кнігі ф. № 3 для калгаснікаў усе гаспадаркі як прыцягваемыя, так і аслабаненыя ад мясапаставак, распалагаюцца па насельным пунктам так, каб усе гаспадаркі кожнага насельнага пункта ішлі адна за другой па ўчасткам, дзесяцідворкам, пяцідзесяцідворкам і г. д.

Пасля сканчэння запісу гаспадарак калгаснікаў кожнага насельнага пункту ў кнізе № 3 неабходна застаўляюць некалькі свабодных старонак для запісу новых гаспадарак.

Таксама заводзяцца кнігі ф. № 3 для аднаасобнікаў.

6. Пасля ўручэння абавязацельстваў здатчыкам і вынясення з „імяннога спісу" ф. 46-д у ліцавыя рахункі ф. № 3 даных аб абавязацельствах на мясапастаўкі на 1935 год, „імянной спіс" ф. 46-д безадкладна перасылаецца назад раённым органам Заготжывёлы, якія вядуць па ім учот уручаных абавязацельстваў на мясапастаўку і ход іх выканання.

7. У выпадках, калі „імянныя спісы" ф. 46-д з распіскамі здатчыкаў аб уручэнні абавязацельстваў будуць адасланы органам Заготжывёлы да атрымання ў сельсаветах кніг ф. № 3, органы Заготжывёлы па указанню раённых інспектароў Наргасучота абавязаны безадкладна звярнуць спісы № 46-д сельсаветам для разнясення адпаведных запісаў у ліцавыя рахункі ф. № 3. Пасля адчынення ліцавых рахункаў у кнізе ф. № 3 „імянныя спісы" ф. 46-д звараючаюцца назад органам Заготжывёлы.

8. Усім раёным і гарадскім інспектарам Наргасучота прапануецца:

1) Прасачыць за сваечасовым спускам Заготарганізацыямі сельсаветам форм „імянных спісаў з ліцавымі рахункамі гаспадарак, прыцягваемых да абавязковай пастаўкі (здачы) мяса" (ф. 46-д) і „імянных спісаў гаспадарак, аслабанёных ад абавязковай пастаўкі (здачы) мяса" (разаслана пад № 49);

2) Забяспечыць дасканальны інструктаж парадку запаўнення гэтых дакумантаў сельсаветамі і у прыватнасці парадку ўстанаўлення сталых номераў гаспадарак;

3) Безадкладна па атрыманні кніг ф. № 3 забяспечыць у РВК тэрміновую нумерацыю старонак у кожнай кніге, прашнуроўку кніг, прапечатанне іх і ўручэнне кожнаму сельсавету;

4) Дасканала праінструктаваць сельсаветы аб парадку вядзення кніг ф. № 3 на 1935 год у адпаведнасці з гэтым лістом і арганізаваць сыстэматычны нагляд за ходам гэтай работы ў сельсаветах.

Нам. Начальніка ЦУНХУ Дзяржплана СССР *Папоў.*

Узгоднена: Нам. Наркома Харчпрома *Левіцін.*

---

Зацьверджаю:
Нам. Нач. Кір. Нар. Гас. Учоту
КАЦНЕЛЬСОН.
22. IX. 34 г.

# Сетка
## участковых інспектур па раёнам.

1. **Касцюковічы:**

1-ы участак у складзе сельсоветаў: Хоцімскі (цэнтр), Елавецкі, Ліпоўскі, Васілеўскі, Беседовіцкі, Трасцінскі, Екацерынапольскі.
2-гі „ у складзе сельсаветаў: Чарняўка (цэнтр) Баханоўскі, Бярозкаўскі, Дуброўскі, Чарняўскі, Пячарскі, Ельнянскі.
3-ці „ у складзе сельсоветаў: Бялынкавіцкі (цэнтр) Каніцкі, Сялецкаўскі, Батаеўскі, Смолькаўскі, Машаўскі, Макранскі, Гаўрыленскі. Баронькаўскі.
4-ты „ у складзе сельсаветаў: Саматэвіцкі (цэнтр), В. Борскі, Сілічаўскі, Беладуброўскі, Хоцімскі, Дзержаноўскі, Ветухноўскі.
5-ты „ у складзе сельсаветаў: Касцюковіцкі м/с (цэнтр), Брацковіцкі, Забычанскі, Негінскі, Нізкаўскі, Студзянецкі, Царковіцкі, Прусінскі.

2. **Гарадок:**

1-ы участак у складзе сельсоветаў: Гарадоцкі (цэнтр), Вайханскі, Александраўскі, Пальмінскі, Кабішчанскі, Болецкі, Бескатаўскі, Першамайскі.
2-гі „ у складзе сельсаветаў: Селішчанскі (цэнтр), Маскаліняцкі, Канчанскі, Пралетарскі, Горкаўскі, Халамерскі, Обальскі.
3-ці „ у складзе сельсаветаў: Кузьмінскі (цэнтр), Віраўлянскі, Мехаўскі, Пылькінскі, Езарышчынскі, Саладухінскі, Хвашнянскі.
4-ты „ у складзе сельсоветаў: Мяжанскі, (цэнтр), Газбінскі, Руднянскі, Цаташалскі, Зайкаўскі, Вышадзкі, Вярэцкі.

3. **Чырвоная Слабада:**

1-ы участак у складзе сельсаветаў: Семежоўскі (цэнтр), Макранскі, Жыляхоўскі, Бучацінскі, Бялевіцкі. Мальшэвіцкі.
2-гі „ у складзе сельсоветаў: Старчыцкі (цэнтр), Чапліцкі, Замагільскі, Смаліцкі, Жываглодаўскі, Чырвона-Слабодзкі.

4. **Барысаў:**

1-ы участак у складзе сельсоветаў: Лошніцкі (цэнтр), Віляціцкі, В. Нягневіцкі, Новаселкаўскі, Метчанскі, Неманіцкі, Зачынскі.
2-гі „ у складзе сельсоветаў: К.-Слабодзкі (центр), Батчанскі, Баранскі, Бродаўскі, Жартайскі, Жыцькаўскі.

3-ці участак у складзе сельсоветаў: Зембінскі м/с (цэнтр), Зембінскі с/с, В. Стахаўскі, Карсакаўскі, Касцюкоўскі, Халхалецкі.
4-ты „ у складзе сельсоветаў. Забашэвіцкі (цэнтр), Аздзіцкі, Чарневіцкі, Лозінскі, Глівінскі, Перасадзкі.

5. Талачын:

1-ы участак у складзе сельсоветаў: Коханоўскі (цэнтр), Абалецкі, Аленаўскі, Няхлюдаўскі, Пераваловчнянскі, Сіманаўскі, Палюдаўскі, Заўковіцкі, Саколінскі.
2-гі „ у складзе сельсоветаў: Круглянскі (цэнтр), Ляснянскі, Паўлавіцкі, Кручанскі, Скуратаўскі, Нова-Палескі, Мархлеўскі, Друцкі.
3-ці „ у складзе сельсоветаў: Талачынскі м/с (цэнтр), Азярыцкі. Новасельскі, Выс. Гарадзецкі, Еўлахаўскі, Плоскі, Славенскі, Слаўненскі, Валосавіцкі.

6. Бабруйск:

1-ы участак у складзе сельсоветаў: Гарбацевіцкі (цэнтр), Каменскі, Багушэўскі, Рымавецкі, Восаўскі, Сычкаўскі.
2-гі „ у складзе сельсаветаў: Кавалеўскі (цэнтр), Цялускі, Туркаўскі, Міхалеўскі, Баратынскі, Малвеўскі, Продзвінскі, Брожскі.
3-ці „ у складзе сельсоветаў: Старцоўскі (цэнтр), Падрэцкі, Любоніцкі, Казуміцкі, Берасневўскі, Гарадзецкі, Баравіцкі.
4-ты „ у складзе сельсоветаў: Бортнікоўскі (цэнтр), Хімаўскі, Паўлавіцкі, Харланавіцкі, Ляшчанскі, Капусцінскі, Мышкаўскі.

7. Рэчыца:

1-ы участак у складзе сельсоветаў: Заспенскі (цэнтр), Холміцкі, Арцюкоўскі, Вытамірскі, Сяменаўскі, Свірыдавіцкі, Жмураўскі, Капаньскі, Баршчоўскі.
2-гі „ у складзе сельсоветаў: Васілевіцкі (цэнтр), Нахаўскі, Бабіцкі, Ліскаўскі, Залатушскі, Какуевіцкі, Караваціцкі, Кабылеўскі, Дземяхаўскі.
3-ці „ у складзе сельсоветаў: Рав. Слабодзкі (цэнтр), Новабарсуцкі, Маладускі, Перасвятаўскі, Бязуеўскі, Капараўскі, Азершчынскі, Чарнянскі, Падалескі.
4-ты „ у складзе сельсоветаў: Горвальскі (цэнтр), Гавенавіцкі, Балашаўскі, Дзгордзяўскі, Вузнацкі, Дуброўскі, Сведзкі, Баравікоўскі.

8. Орша:

1-ы участак у складзе сельсоветаў: Смалянскі (цэнтр), Кальцэўскі, Шыбецкі, Какоўчынскі, В. Сялецкі, Машкаўскі, Леднявіцкі, Малатнянскі, Тумініцкі.
2-гі „ у складзе сельсоветаў: Копыскі (цэнтр), Дуброўскі, Зубаўскі, Якаўлевіцкі, Рудкоўшчынскі, Браздзечынскі, Пугляеўскі.
3-ці „ у складзе сельсоветаў: Багушэўскі (цэнтр), Астапенскі, Клюкаўскі, Высоцкі, Стайкаўскі, Будаўскі, Шапкаўскі, Сталінскі, Межаўскі.
4-ты „ у складзе сельсоветаў: Баранскі (цэнтр), Веравайшанскі, Пішчалаўскі, Яромкаўскі, Панізоўскі, Кудаеўскі, Крапівенскі.

9. **Жлобін:**

1-ы участок у складзе сельсоветаў: Пірэвіцкі (цэнтр), Ст. Руднянскі Чацвярнянскі, Скопняўскі, Бабоўскі, Майскі, Салонскі.

2-гі „ у складзе сельсоветаў: Казіміроўскі (цэнтр), Малевіцкі, Сенажаткоўскі, Радускі, Лукаўскі, Караткоўскі, Мормальскі.

3-ці „ у складзе сельсоветаў: Стрэшынскі (цэнтр), В. Албанскі, Нова-Маркаўскі, Папаратнянскі, Кабанаўскі, Дабрагошчанскі, Затонскі.

10 **Хойнікі:**

1-ы участок у складзе сельсоветаў: В. Борскі (цэнтр), Амелькаўскі Маканавіцкі, Хобнянскі, Нябытаўскі. Карчоўскі.

2-гі „ у складзе сельсоветаў: Барысаўшчынскі (цэнтр), Алексіцкі, Паташнянскі, Клеўскі, Дварышчанскі, Паселіцкі, Валоцкі, Забалацкі.

3-ці „ у складзе сельсоветаў: Тульгавіцкі (цэнтр), Арэвіцкі, Кажушкаўскі, Новаселкаўскі, Бабчынскі, Рудакоўскі, Стрэлічаўскі.

11. **Уваравічы:**

1-ы участок у складзе сельсоветаў: Лапіцкі (центр). Ліпскі, Сталінскі, Калінінскі, Блюдніцкі, Рудзянецкі, Уваравіцкі, Пенчынскі.

2-гі „ у складзе сельсоветаў: Теляшоўскі (цэнтр), Тярэніцкі, Борхаўскі, Гусевіцкі, Адзелінскі, Стара-Беліцкі.

3-ці „ у складзе сельсоветаў: Крыўскі (цэнтр), Бярвенаўскі, Чабатовіцкі, Глазаўскі, Смычкоўскі, Бацунскі, Увальскі.

12. **Менск:**

1-ы участок у складзе сельсоветаў: Прыгародны (цэнтр), Бараўскі Астрашыцка-Гарадзецкі, Пепернянскі, Калодзішчанскі Ратомскі.

2-гі „ у складзе сельсоветаў: Трасцянецкі (цэнтр), Замастоцкі, Новадворскі, Абчацкі, Кайкоўскі, Каралішчавіцкі.

3-ці „ у складзе сельсоветаў: Падгайскі (цэнтр), Самахвалавіцкі, Грычынскі, Крупіцкі, Сенніцкі, Строчыцкі, Гатоўскі.

13. **Віцебск:**

1-ы участак у складзе сельсоветаў: Шумянскі (цэнтр), Рудакоўскі, Замастоцкі, Машканскі.

2-гі „ у складзе сельсоветаў: Елагінскі, (цэнтр), Рудніцкі. Бабініцкі, Селюцкі.

3-ці „ у складзе сельсоветаў: Бараўлянскі (цэнтр), Даўжанскі Віцебскі, Міхалеўскі, В. Летчанскі, Старасельскі, Нікалаеўскі

14. **Смалявічы:**

1-ы участок у складзе сельсоветаў: Варатоўскі (цэнтр), Верхмянскі, Клівіцкі, Драчкоўскі, Петровіцкі, Жодзінскі, Плiскі.

2-гі „ у складзе сельсоветаў: Амельяноўскі (цэнтр), Жажэлкаўскі, Юраўскі, Прылепскі, Слабадзкі, Забалацкі, Смалявіцкі.

15. **Лепель:**

1-ы участок у складзе сельсоветаў: Каменскі (цэнтр), Сушанскі, Песінскі, Прудоцкі, Воранскі.

2-гі участок у складзе сельсоветаў: Валосевіцкі (цэнтр), Весялоўскі, Ляхавіцкі, Кашчынскі, Лятыголіцкі, Красналуцкі, Замоскі.
3-ці „ у складзе сельсоветаў: Лепельскі (цэнтр), Палянскі, Пышнянскі, Зацякляскі, Стайскі, Свядскі.

16. Нароўля:

1-ы участок у складзе сельсоветаў: Міхалкаўскі (цэнтр), Барбараўскі, Бібікаўскі, Вустоўніцкі.
2-гі „ у складзе сельсоветаў: Нараўлянскі (цэнтр), Вербавіцкі, Галоўчыцкі, Дзямідаўскі.
3-ці „ у складзе сельсоветаў: Дзернавіцкі (цэнтр), Пешкаўскі, Даўлядаўскі, Беразаўскі, Хаткаўскі.
4-ты „ у складзе сельсоветаў: Мухаедаўскі (цэнтр), Углоўскі, Якопскі, Алексадроўскі, Красніскі,

17. Ліозна:

1-ы участок у складзе сельсоветаў: Замшынскі (центр), Веляшкаўскі, Гладанскі, Калышкаўскі, Сутоцкі.
2-гі „ у складзе сельсоветаў: Высачанскі (цэнтр), Ясінаўскі, Кабыльнікаўскі, Старабабыльскі, Крынкаўскі.
3-ці „ у складзе сельсоветаў: Лезнянскі (цэнтр), Чарніцкі, Ўнаўскі, Стасеўскі, Каралеўскі.
4-ты „ у складзе сельсоветаў: Дабрамысленскі (цэнтр), Касцееўскі, Выдрэйскі, Бабінавіцкі, Гарбоўскі.

18. Пухавічы:

1-ы участок у складзе сельсоветаў: Дукорскі (цэнтр), Рудзенскі, Пярэжырскі, Галоцкі, Узлянскі, Карзуноўскі, Смілавіцкі, Рудзіцкі, Азярышчанскі.
2-гі „ у складзе сельсаветаў: Гарэліцкі (цэнтр), Сінчанскі, Суцінскі, Сяргееўскі, Сялецкі, Кнорынскі, Слабоцкі, Задошчынскі, Шацкі.
3-ці „ у складзе сельсоветаў: Пухавіцкі (цэнтр), Блонскі, Пудзіцка-Слабодзкі, Турынскі, Балочанскі, Блужскі, Талькаўскі, Новаселкаўскі, Цытвянскі.

19 Полацк:

1-ы участок у складзе сельсоветаў: Алесаўскі (цэнтр), Арлейскі, Сітнянскі, Васілеўскі, Верхачэнскі, Юравіцкі, Сестранецкі.
2-гі „ у складзе сельсоветаў: Махіраўскі (цэнтр), Вамчанскі, Кушлікаўскі, Баярскі, Бельскі, Булаўскі, Ліцвінаўскі, Астроўшчынскі.
3-ці „ у складзе сельсоветаў: Сосніцкі (цэнтр), Шацілаўскі, Дамнікоўскі, Тураўлянскі, Семянецкі, Салоніцкі, Громаўскі, Экімонанскі.
4-ты „ у складзе сельсоветаў: Ветрынскі (цэнтр), Шпакоўшчынскі, Нацкі, Гарадоцкі, Наўліцкі, Бабыніцкі, Руднянскі, Вароніцкі, Гомельскі, Заскарскі.

20. Дуброўна:

1-ы участок у складзе сельсоветаў: Дубровенскі гарсовет (цэнтр), Цілевіцкі, Савінскі, Мардашэўскі, Сватошыцкі, Дабрынскі, Кляноўскі.
2-гі „ у складзе сельсоветаў: Расоснянскі (цэнтр), Тухінскі, Чарнаруцкі, Верацейскі, Азярскі.

3-ці участак у складзе сельсоветаў: Ляднянскі (цэнтр), Баеўскі, Бельскі, Расткоўскі, Сазаноўскі, Іскаўскі, Слатоўшчынскі.

21. **Любань:**

1-ы участак у складзе сельсоветаў: Любанскі (цэнтр), Яменскі, Асавецкі, Тальскі, Юшкавіцкі, Рэдкавіцкі, Слабодзкі.
2-гі „ у складзе сельсоветаў: Нежынскі (цэнтр), Рачэнскі, Турацкі, Мала-Гарадзяціцкі.

22. **Буда-Кашалева:**

1-ы участак у складзе сельсоветаў: Ліпініцкі (цэнтр), Рагінскі, Буда-Люшаўскі, Забалоцкі, Любавінскі, Патапаўскі.
2-гі „ у складзе сельсоветаў: Недойскі (цэнтр), Б. Кашалеўскі, Дуравіцкі, Забабскі. Губцкі, Кашалеўскі.

23. **Плешчаніцы:**

1-ы участак у складзе сельсоветаў: Каменскі (цэнтр), Ганцевіцкі, Прусавіцкі, Аколаўскі, Амнішаўскі. Плешчаніцкі.
2-гі „ у складзе сельсоветаў: Завішчанскі (цэнтр), Запольскі, Зарэцкі, Крайскі, Горнаўскі, Ізбішчанскі. Хатаевіцкі.

24. **Слуцк:**

1-ы участак у складзе сельсоветаў: Грэскі (цэнтр), Лучнікоўскі, Серагскі, Мусіцкі, Бокшыцкі, Шышчыцкі, Палікарпаўскі, Пакрашаўскі, Першамайскі.
2-гі „ у складзе сельсоветаў: Урэцкі (цэнтр), Даросінскі, Сарогскі, Амговіцкі, Старэўскі, Мялешкаўскі, Ісернскі, Прошчыцкі, В. Сліўскі.
3-ці „ у складзе сельсоветаў: Івана-Гародніцкі (цэнтр), Ленінскі, Кастрычнікоўскі, Сераднякоўскі, Беліцкі, Цараўскі, Казловіцкі.

25. **Бешанковічы:**

1-ы участак у складзе сельсоветаў; Бешанковіцкі (цэнтр), Макаравіцкі, Верхоўскі, Пажарышчанскі, Ганкаўскі, Біклажанскі, Навікоўскі, Каўлякоўскі, Пяцігорскі, Свечанскі.
2-гі „ у складзе сельсоветаў: Ульскі (цэнтр), Усвейскі, Хоцінскі Сокараўскі, Бачэўкаўскі.
3-ці „ у складзе сельсоветаў: Астровенскі (цэнтр). Пліскі, Сініцкі Стрэлішчанскі.

26. **Сенно:**

1-ы участак у складзе сельсоветаў: Латычальскі (цэнтр), Нямойцянскі, Раснянскі, Беліцкі, Улянаўскі, Гарывецкі, Машчанскі.
2-гі „ у складзе сельсоветаў: Пустынскі (цэнтр), Аляксініцкі, Сідорніцкі, Будзкі, Новасельскі № 2, Новасельскі № 1, Застадольскі, Хадчанскі.

27 **Ушачы:**

1-ы участак у складзе сельсоветаў: Чарапоўшчынскі (цэнтр), Ушацкі, В. Сарочынскі, Плінскі, Кубліцкі н|с, Кубліцкі с|с, Гарадзецкі.
2-гі „ у складзе сельсоветаў: Жарскі (цэнтр), Весніцкі, М. Далецкі, В. Далецкі, Вацлаваўскі, Завячэльскі.

3-ці участок у складзе сельсоветаў: Зарэчанскі (цэнтр), Масырскі, Усойскі, Гарбачэўскі, Глыбочанскі, Сарачынскі.

28. **Мозыр**

1-ы участак у складзе сельсоветаў: Якімавіцкі (цэнтр), Савіцкі, Капліцкі, Цэрабаўскі, Бяседзкі, Кліноцкі, Сухавіцкі, Крукавіцкі
2-гі „ у складзе сельсоветаў: Даманавіцкі (цэнтр), Холмаўскі, Азарыцкі, Новасёлкаўскі, Зеляноцкі, Ліпаўскі, Асташкавіцкі, Марцінавіцкі, Хоміцкі.
3-ці „ у складзе сельсоветаў: Прудкаўскі (цэнтр), Слабадзкі, Казіміраўскі, Бабрыняцкі, Баброўскі, Тварычэўскі.
4-ты „ у складзе сельсоветаў: Калінкавіцкі (цэнтр), Гулевіцкі, Юравіцкі, Крышыцкі, М. Аўцюцевіцкі, Аўцюкевіцкі, Дудзіцкі, Бярозаўскі, Антонаўскі.

29. **Краснаполье:**

1-ы участак у складзе сельсоветаў: Выдрэнскі (цэнтр), Мхініцкі, Сабалеўскі, Беразяцкі, Пачапаўскі.
2-гі „ у складзе сельсоветаў: Краснапольскі (цэнтр), Нова-Ельнянскі, Гарадзецкі, Кажамякінскі, Клясінскі.
3-ці „ у складзе сельсоветаў: Палужскі (цэнтр), Гніліцкі, Казбудзкі, Гарэзнянскі, Гораўскі, Горнаўскі.

30. **Сураж.**

1-ы участак у складзе сельсаветаў: Запольскі (цэнтр), Полаўскі, Шабраўскі, Пудоцкі, Астроўскі, Курынскі, Камароўскі
2-гі „ у складзе сельсаветаў: Краўцоўскі (цэнтр), Суражскі с/с, Суражскі м/с, Марчонкаўскі, Батаніцкі, Пышнікоўскі.
3-ці „ у складзе сельсаветаў: Янавіцкі с/с (цэнтр), Янавіцкі, м/с. Станкаўскі, Котаўскі, Войтаўскі.

31. **Быхаў**

1-ы участак у складзе сельсаветаў: Іскамскі (цэнтр), Ніканаўскі, Вузніцкі. Бахамскі, Зімніцкі, Хатаўнянскі, Абідавіцкі, Сялец-Халапеяўскі.
2-гі „ у складзе сельсаветаў; Грудзінаўскі І (цэнтр), Быхаўскі гарсавет, Кузкаўскі Трылесінскі, Грудзінаўскі, ІІ, Чыр. Асавецкі.
3-ці „ у складзе сельсаветаў: Ніжня-Тошчыцкі (цэнтр станцыя Тошчыца), Лудчыцкі, Тайманаўскі, Нова-Быхаўскі, Чырвона-Бярэзінскі, Дунайскі, Падсельскі, Чыгірынскі.
4-ты „ у складзе сельсаветаў: Студзенаўскі, (цэнтр), Глухаўскі, Кучынскі, Балонава-Сялецкі, Чачавіцкі, Гарадзецкі, Макранскі, Баркалабаўскі, Клетнянскі.

32. **Старыя-Дарогі.**

1ы участак у складзе сельсаветаў: Нова-Дарожскі (цэнтр), Дараганаўскі, Старадарожскі, с/с, Крываносаўскі, Кармазоўскі, Пасецкі,
2-гі „ у складзе сельсаветаў: Горкаўскі (цэнтр), Дражнянскі, Шчыткавіцкі, Жыцінскі, Старадарожскі. м/с, Языльскі.

33. **Лоеў.**

1-ы участак у складзе сельсаветаў: Перадзельскі, (цэнтр), Карпаўскі, Папоўскі, Шарпілаўскі, Рудня-Марымонаўскі, Казяроскі, Старадубскі, Лоеўскі. м/с.

2-гі участак у складзе сельсаветаў: Уборкаўскі, (цэнтр), Ліп,някоўскі, Хаткаўскі, Баршчоўскі, Ручаеўскі, Быванькаўскі Дзеражыцкі, Крупейскі.

34. Дзяржынэк

1-ы участак у скадзе сельсаветаў: Станькаўскі (цэнтр), Ляхавіцкі, Негарэльскі, Рублікаўскі, Дабрынеўскі, Озерскі.
2-гі „ у складзе сельсаветаў: Старынкаўскі (цэнтр), Паланевіцкі, Бараўскі, Новасельнаўскі, Фаніпольскі, Дзяржынскі.
3-ці „ ускладзе сельсаветаў: Нарэйкаўскі (цэнтр), Байдацкі, Сталінскі, Путчынскі, Новасадзкі.

35. Шклоў

1-ы участак у складзе сельсаветаў: Фашчаўскі (цэнтр), Ардецкі, Гарадзішчанскі, Еганаускі, Заходзкі, Мікіцінскі, Нічыпаравіцкі, Славенскі, Сліжоўскі.
2-гі „ у складзе сельсаветаў: Чорнаруцкі (цэнтр). Александрыйскі, В-Лозіцкі, Загаранскі, Камсініцкі, Нова-Брашчынскі, Старасельскі. Таўкачэўскі, Уланаўскі.
3-ці „ у складзе сельсаветаў: Рыжскаўскі (цэнтр), Высоцкі, Гарадзецкі, Зарэчна-Шклоўскі, Камена-Лаўскі, Падгайцаўскі. С-Воднянскі, Чарнянскі, Княжыцкі.

36, Ельск

1-ы участак у складзе сельсаветаў: Ельскі (цэнтр), Багушіцкі, Санюкаўскі, Каменскі, Мелешкавіцкі, Рамезаўскі, Махнавіцкі.
2-гі „ у складзе сельсаветаў: Скараднянскі (цэнтр), Кармянскі, Засінцаўскі. Качышчанскі, Ст.-Высокаўскі, Кузміцкі, Роза-Люксембурскі.

37, Старобін

1-ы участак у складзе сельсаветаў: Чыжэвіцкі (цэнтр), Чапялеўскі, Чырвонадворскі. Міцяевіцкі, Пагоскі, Зажэвіцкі, Лістападаўскі, Старобінскі.
2-гі „ у складзе сельсаветаў: Доўгаўскі, (цэнтр), Капацэвіцкі, Сухамільскі, Мазуршчанскі, Даманавіцкі, Чырвона-Озерскі, Дзякавіцкі.

38. Тураў

1-ы участак у складзе сельсаветаў: Азярскі (цэнтр). Танежскі. Букчанскі, Перароўскі, Дзяржынскі.

39. Гомель

1-ы участак у складзе сельсаветаў: Яромінскі (цэнтр), Прудкоўскі, Пакалюбіцкі, Касцюкоўскі, Ціценскі, Ст.-Мільчанскі, Давыдаўскі, Урыцкі, Прыбарскі.
2-гі „ у складзе сельсаветаў: Ст.-Дзятлавіцкі (цэнтр), Бабавіцкі. Жаробенскі, Міхалькоўскі, Карналінскі, Сяўрукоўскі, Ст. Тэрэшкавіцкі.
3-ці „ у складзе сельсаветаў: Зяброўскі (цэнтр), Улукаўскі, Раманавіцкі, Будзкі, Жгунскі, Прыбыркаўскі, Клімаўскі.

40. Узда

1-ы участак у складзе сельсаветаў: Уздзенскі м/с (цэнтр), Зенькаўскі Семенаўскі, Стальбоўскі, Магілянскі, Прысынкаўскі.

2-гі „ у складзе сельсаветаў: Лашанскі (цэнтр), Гацукоўскі, Хатлянскі, Сл. Пырашаўскі, Каменоцкі, Цеплянскі, Целякаўскі.

41. Расокы

1-ы участак у складзе сельсаветаў: Сакалішчанскі (цэнтр), Клясціцкі' Мілавідзкі, Сяляўшчынскі, Руднянскі.

2-гі „ у складзе сельсаветаў: Дзмітраўскі (цэнтр), Юхавіцкі, Альбрэхтоўскі, Гарбачэўскі, Парыцкі.

3-ці „ у складзе сельсаветаў: Шніткаўскі (цэнтр), Круцікаўскі, Заборскі, Старадворскі, Тродавіцкі, Краснаборскі.

42. Лельчыца

1-ы участак у складзе сельсаветаў: Буйнавіцкі (цэнтр), Стадоміцкі, Гравянеўскі, Сініцка-Польскі, Астражанскі, Замоскі.

2-гі „ у складзе сельсаветаў: Бараўскі (цэнтр), Лельчыцкі, Сіманіцкі, Картыніцкі, Глушкавіцкі, Мілашэвіцкі.



43. Парычы

1-ы участак у складзе сельсаветаў: Парыцкі м/с (цэнтр), Шчадрынскі, м/с, Шчадрынскі, с/с Сцянскі,Малінаўскі, Добравольшчынскі Кар. Слабодзкі, Казлоўскі, Коўчыцкі.

2-гі „ у складзе сельсаветаў: Дуброўскі (цэнтр), Ракшынскі, Чыркавіцкі, Шацілкаўскі, Давыдаўскі, Людвінаўкі, Кабыльшчанскі, Гарохавіцкі, Чэрнінскі.

3-ці „ у складзе сельсаветаў: Валасавіцкі (цэнтр), Ламавіцкі, Любаньскі, Раманішчанскі, Пратасоўскі.

44. Бярэзіна

1-ы участак у складзе сельсаветаў: Машаніцкі (цэнтр), Бялічанскі, Арэшкавіцкі, Змітравіцкі, Высокагорскі.

2-гі „ у складзе сельсаветаў: Капланецкі (цэнтр), Бярэзінскі, м/с, Бярэзінскі с/совет, Пагоскі, Мачэскі, Нягодніцкі, Дулебскі.

3-ці „ у складзе сельсоветаў: Бродзецкі (цэнтр), Перавозскі, Каменна-Борскі, Багушэўскі, Сялібскі, Якшыцкі.

45. Клічаў

1-ы участак у складзе сельсаветаў: Бацэвіцкі (цэнтр), Усохскі, Запольскі, Ваевіцкі, Нясецкі, Віракаўскі, Убалоцкі, Клічаўскі.

2-гі „ у складзе сельсаветаў: Даўжанскі (цэнтр), Дубнянскі, Ядрана-Слабодзкі, Грыбавіцкі, Ганчанскі, Усакінскі.

3-ці „ у складзе сельсаветаў: Максімавіцкі (цэнтр), Каўбчанскі, Востраўскі, Владзіміраўскі, Наталаўскі, Кабылянскі.

46. Церахава

1-ы участак у складзе сельсаветаў: Агародня-Гомельскі (цэнтр), Харошаўскі. Кармянскі, Купецкі, Пераростаўскі, Васілеўскі, Кузьмініцкі,

2-гі участак у складзе сельсаветаў. Баршчаўскі (цэнтр), Крувешч-Камінскі, Ленінскі, Усохска-Будзкі, Дуброўскі, Церахоўскі, Уцеўскі,

3-ці „ у складзе сельсаветаў: Пракопаўскі (цэнтр), Краўцоўскі, Падабранскі, Глыбоцкі, Маркавіцкі, Царускі, Грыбаўскі, Пясочна-Будзкі, Насовіцкі, Гардунаўскі.

47. Мсціслаўль

1-ы участак у складзе сельсаветаў: Татаршчынскі (цэнтр), Старасельскі Янаўскі, Рылаўшчынскі, Дубчыцкі.

2-гі „ у складзе сельсаветаў: Хадасоўскі (цэнтр), Мазалоўскі, Хлышчаўскі, Шыркаўскі Даўгавіцкі Малькаўскі, Забалоцкі, Пячкоўскі.

3-ці „ у складзе сельсаветаў: Курмачаўскі (цэнтр), Шамаўскі, Пячонкаўскі, Раснянскі, Заходскі, Пацолтаўскі.

---

# II. Работа сыстэмы Наргасучота.

## За моцны апарат учота.

Пастановай ЦК ВКП(б) ад 16-га мая 1934 г. „Аб статыстыкі жывёлагадоўлі і дыскусіі у „Праўдзе“ былі адзначаны буйнейшыя недахопы у рабоце нашай учотнай сыстэмы (слабасць раённага звена, недастатковая канкрэтнасць і аперацыйнасць у кіраўніцтве імі).

У гэтай пастанове запісана „прапанаваць ЦУНХУ у дэкадны тэрмін вайсці у СНК СССР з канкрэтным планам разгортвання сеткі ўчастковай інспектуры і планам мерапрыемств, забяспечваючых раённым органам ЦУНХУ кіраўніцтва ўсей справай статыстычнага учота у раёне“.

Пастанова ЦК выканана.

Канкрэтны план стварэння участковай інспектуры Наргасучота зацверджан Соўнаркомам СССР.

Ад усіх нас, работнікаў учотнай сыстэмы, патрабуецца зараз па большавіцкі бароцца за яго ажыццяўленне.

Стварэнне сеткі участковых інспектароў мае вялізарнае значэнне ва ўмацаванні нашага раённага звена. Раённы інспектар Наргасучота у асобе участковых інспектароў атрымоўвае зараз поўную магчымасць ахапіць сваім кіраўніцтвам ўсе важнейшыя участкі учотнай работы у раёне. На участковую інспектуру ускладаюцца такія адказныя задачы, як правядзенне перапісаў, розных статыстычных, кантрольных работ, кантроль і інструктаж па учотнай рабоце у сельсоветах, калгасах, прадпрыемствах, школах, пабудоў, барацьба з бюракратычнымі ізвращэннямі у пастаноўцы учота і справаздачнасці. Партыя і ўрад рашэннем аб арганізацыі сыстэмы участковых інспектароў забяспечваюць магчымасць значна палепшыць пастаноўку учотна-статыстычных работ і палегчаюць барацьбу за верную лічбу.

Справа арганізацыі участковай інспектуры на даным адрэзку часу з'яўляецца важнейшай задачай ўсей сыстэмы Народна-Гаспадарчага Учота. Не пазней 15-га кастрычніка сетка інспектур павінна быць укамплектавана поўнасцю, з тым, каб забяспечыць сваечасовую курсавую падрыхтоўку новых работнікаў участковай інспектуры і прывесці іх у

баявую гатоўнасць да вырашэння адказнейшых учотных задач, прадстаячых зімой бягучага году.

Тым не менш, асобныя раённыя інспектары не даацэньваюць вялізарнае значэнне хуткага укамплектавання кадраў участковых інспектур праверанымі работнікамі. Такія інспектары як Асвейскі (т. Васілеўская), Горкі (т. Аніхоўскі) праяўляюць поўную бяздзейнасць. Такому палажэнню павінен быць паложан конец.

Кожны раённы інспектар павінен цверда усвядоміць, што па сваечасоваму падбору надлежачых кадраў участковых інспектароў і арганізацыі іх работы—мы у першую чаргу будзем судзіць аб якасці работы раённай інспектуры.

Забяспечым-жа хуткае і добраякаснае выкананне важнейшага рашэння партыі і ураду. *Владзімірскі.*

---

## Як складаць асноўныя паказчыкі выканання плана па с/г.

Для працы па нагляданню за выкананнем плана у с/гаспадарцы нельга, як у іншых галінах нар. гасп-кі устанавіць нейкія старыя паказчыкі, па якім магчыма было-б весці нагляданне з месяца ў месяц і з квартала-у квартал. Паказчыкі, па якім вядзецца нагляданне трэба ўстанаўліваць па лініі с/гасп-кі кожны квартал і нават кожны месяц.

С/гаспадарчым сектарам устанаўліваюцца, прыкладна, такія паказчыкі у залежнасці ад характара с/гасп. работ у той ці іншы перыяд года: у першым квартале падрыхтоўка да веснавой сяўбы, а менавіта: становішча насенных фондаў, ачыстка насення, рамонт трактароў і с/г машын, становішча цягавой сілы, завоз і рэалізацыя сельгас. машын да веснавой сяўбы. З пачаткам пасеўкампаніі увага павінна быць пераключана на ход сева, работу трактарнага парка ў МТС і саўгасах.

Па сканчэнню сева асноўным з"яўляецца нагляданне за ходам праполкі зернавых, гародніны, бульбы і лёну, а таксама рамонт і завоз сельгас. машын да ўборачнай кампаніі і наогул падрыхтоўка да уборкі.

Са жніўня, а па касавіцы і раней, уся увага пераключаецца на ход уборачнай па азімым, яравым зернавым, лёну потым у верасні-кастрычніку-уборка бульбы і гародніны. Адначасова трэба сачыць за падняццем зябі і цаліны

Канец III-га і увесь IV-й квартал заняты нагляданнем за апрацоўкай ураджаю: малацьба, першапачатковая апрацоўка лёну (высціл альбо замочка, трапанне), буртаванне бульбы, сіласаванне кармоў, размеркаванне ураджаю у калгасах.

Побач з гэтым у чацьвертым квартале ужо трэба мець на ўвазе падрыхтоўку да вясенняй пасеўкампаніі.

У галіне жывёлагадоўлі можна ўстанавіць больш сталыя паказчыкі, а менавіта: два разы у год-на 1/I і на 1/VII выкарыстоўваюцца суцэльныя учоты жывёлы. Што месячна трэба весці нагляданне за камплектаваннем стада таварных ферм-малочных, свінагадоўчых і аўцаводных, выкарыстоўваючы для гэтага аперацыйную справаздачнасць райза. Для больш углубленнага аналізу руху стада таварных ферм выкарыстоўваецца квартальная справаздачнасць таварных ферм па тым відам ферм і раёнам, дзе гэты учот вядзецца.

І нарэшце у кожным квартале, адным з самых асноўных паказчыкаў з'яўляецца ход калектывізацыі.

Якім матар'ялам можна карыстацца для нагляданьня па выкананню плана?

Як відна з пералічаных паказчыкаў, аснаўным матар'ялам з'яўляецца пяцідзенная і дзесяцідзенная справаздачнасць райза сельсаветаў, соўгасаў і МТС.

Работа над даннымі атрымліваемымі ад райза не павінны зразумела звадзіцца да простай перапісцы табліц, гэта не мае ніякага сэнсу. Трэба прывесці табліцы у такі выгляд, каб звярнуць увагу на асноўныя моманты.

Для скарыстання матар'ялаў можна карыстацца наступнымі прасцейшымі схемамі табліц:

**1) Без сектарыяльнага разрэза.**

| Назва сельсовета. | План | Выкананне | % Выканання. |
|---|---|---|---|
| | | | |

**2) З сектарыяльным разрэзам.**

| Назва сельсавета | Соўгасы | | | Калгасы | | | Аднаасобн. | | | Разам. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | План | Выкананне | % | План | Выкананне | % | План | Выкананне | % | План | Выкананне | % |
| | | | | | | | | | | | | |

Зразумела, што у залежнасці ад патрабаванняў матар'яла схемы трэба відаізменяць, на прыклад: у табліцы трэба змясціць сектары, с/советы і культуры; тады у табліцы па сектарам можна заставіць толькі дзве графы-выкананне і °/о выканання, наогул трэба ізбягаць састаўлення грамоздкіх табліц.

Для таго, каб выявіць не толькі становішча, у якім знаходзіцца данная с/гас. кампанія, але і тэмпы хода кампаніі, вельмі каштоўна у дзейніку, пасля ітога па раёну ставіць яшчэ два радкі "было на папярэдню пяцідзенку (дзесяцідзёнку, месяц, квартал) і было на адпаведную дату мінулага году".

Складаннем табліц аднак не канчаецца праца па наглядванню за выкананнем плана.

Наступнай задачай з'яўляецца аналіз матар'ла, выяўленне прычын тых вынікаў, якія можна зрабіць з матар'яла.

Адным з асноўных мэтодаў аналіза матар'яла з'яўляецца сапастаўленне розных паказчыкаў паміж сабой і параўнення атрыманых паказчыкаў з адпаведнымі паказчыкамі за мінулы час (дынаміка). Пры гэтым, у максымальнай ступені трэба выкарыстаць тыя табліцы, якія ўжо складзены. Так, пры дрэнным ходзе пасеўнай кампаніі трэба звярнуць увагу на забяспечаннасць насеннем, на работу конскай і трактарнай цягавой сілы, на забяспечаннасць конскага пагалоў'я фуражом. Зразумела, што у сельгас. кампаніях значную ролю граюць таксама і мэтэрыялагічныя умовы. Для тлумачэння хода камплектавання і змен у становішчы стада, трэба падрабязна вывучыць адыход прыплод і пасля таго-вынікі сапаставіць з дадзеннымі ншых раённых арганізацый: Заготжывёла, Заготкож і г. д.

Другім важным мэтадам аналіза з'яўляецца вывод сярэдніх паказчыкаў. Аднак, інспектару трэба памятаць, што агульнымі сярэднімі лічбамі па раёну у цэлым ні у якім разе нельга абмяжоўвацца ў першую чаргу абавязкова параўнанне, хаця-б асноўных паказчыкаў па паасобных сельсоветах. Не менш важна параўнанне асноўных паказчыкаў па аднолькавых катэгорыях гаспадарак, выяўляючы такім чынам дзе найбольш слабыя вучасткі, дзе крыюцца прычыны прарываў у раённым плане. У мэтах вытлумачэння прычын тых ці іншых з'явішчаў у ходзе выканання плана, альбо абаснавання выводаў, трэба максімальна выкарыстоўваць канкрэтныя факты, выяўляемымі мясцовымі газэтамі (раённай, шмат-тыражкай), а таксама матар'ялы абследванняў і праверкі правадзімых раённымі арганізацыямі.

Акрамя таго, што інспектар кожны месяц складае кон'юнктуру, неабходна па кожнай сельгас. кампаніі сыстэма-

тычна занасіць дадзеныя ў кніжку асноўных паказчыкаў (якія маюцца у кожнай інспектўры) з тым, каб можна было бачыць увесь ход кампаніі. Сыстэматычнае вядзенне гэтай кнігі значна палегчыць працу па складанню штомесячных кан‘юнктурных аглядаў і аналіза іх вынікаў.

*Філіповіч.*

**Ад рэдакцыі:** Паказаны матар‘ял з‘яўляецца вельмі каштоўным у сэнсе дапамогі райінспектарам у складанні асноўных паказчыкаў выканання плана, але далёка не вычэрпальным.

У бліжэйшым нумары будзе дан матар‘ял і па іншым галінам народнай гаспадаркі.

Пажадана атрымаць ад райінспектароў абмен опытам сваей работы у гэтай галіне.

---

## Адсутнічае належная ўвага сельсовецкаму учоту.

Друкуемы у гэтым нумары матар‘ял па вынікам абследвання, паасобнымі інспектарамі наргасучота, становішча ўнядрэння первічнага ўчота у сельскіх советах, досыць яскрава адлюстроўвае адносіны з боку большай часткі нашых раённых інспектур да такой важнейшай гаспадарча-палітычнай справы, як налажванне учота і справаздачнасці у сельскіх советах.

Амаль ніводная інспектура Наргасучота не паклапацілася за ўвесь час ўвядзення первічнага ўчога у сельскіх советах па зацверджаным ЦУНХУ формам, праверыць як сельсовецкія работнікі адносяцца да гэтай справы, што ім перашкаджае ва ўнядрэнні гэтага учота і аказаць належную дапамогу там, дзе яна патрэбна і прыцягнуць да адказнасці злосных зрыўшчыкаў учота.

Патрэбна было спецыяльнае указанне начальніка Кіраўніцтва т. Владзімірскага аб неабходнасці правядзення праверкі на мейсцох, і толькі пасля гэтага інспектуры (і то не усі) пачалі праверку.

Паасобныя моманты праверкі даюць нам наступны малюнак:

а) частка с/советаў запоўнілі ф. № 1, 2-а і 2-б і часткова ф. № 3, запісы праведзены сваечасова і акуратна без памарак і спраўленняў.

б) другая частка с/советаў прыступілі да запаўнення пагаспадарчых кніг, але не давелі справу да канца і на гэтым застанавіліся.

в) маюцца і такія с/советы, якія зусім не приступілі да запаўнення пагаспадарчых кніг і

г) нарэшце маюцца такія сельсоветы (меншасць), якія ф. № 2-а і 2-б запоўнілі, але зусім не приступілі да запаўнення ф. № 3.

Аб чым гэта гаворыць?

Па першае—аб тым, што інспектары пусцілі гэту важнейшую справу на самацёк і не правелі ніякай растлумачальнай работы сярод сельсовецкіх работнікаў аб метазгоднасці ўнядрэння первічнага учота па зацверджаным формам.

Па другое—што нашы інспектуры, нават пры праведзенай праверкі звярачвалі ўвагу выключна на становішча ўвядзення пагаспадарчых кніг, але ніякай увагі не зварачвал на становішча фінансавага ўчота, форм ЗАГС'а і іншых.

Неабходна яшчэ застанавіцца на выпадках неправільнага размеркавання кніг сельсоветам, у выніку чаго атрымалась, што у некаторых сельсоветах маюцца лішнія кнігі, а ўдругіх не хапае, а інспектуры пры размеркаванні кніг не улічвалі колькасць маючыхся у кожным сельсовеце гаспадарак, а выдавалі столькі, колькі сакратар сельсовета прасіў.

Так, напрыклад, Чырвонапольская інспектура здала усе кнігі аднаму сельсовету і зразумела, што астатнім не хапіла, Шклоўская інспектура, пасля атрымання патрэбных для ўсяго раёна 365 кніг ф. № 2-б, паведамляе КНГу аб недахопу яшчэ 400 кніг (толькі) гэтай жа формы. Такіх прыкладаў можна указаць шмат.

Неабходны рашучы пералом. Нельга так безадказна адносіцца да такой важнейшай справы.

Зараз, пры арганізацыі участковых інспектароў, якія будуць непасрэдна знаходзіцца увесь час у сельсоветах, справа первічнага учота у сельскіх советах павінна быць пастаўлена самым належным чынам. За гэту справу адказваюць і ўчастковыя інспектары і раённыя і ніякія разважанні і спасылкі на розныя аб'ектыўныя прычыны не павінны быць.

У канцы верасня м-ца разасланы усім раёным інспектурам форма № 3 на 1935 г. для таго, каб мясанарыхтоўкі 4—га квартала 1934 г. якія здаюцца ў лік плана 1935 г. былі занесены у гэтыя кнігі,

Інспектуры Наргасучота павінны улічваць памылкі мінулага году і не дапускаць іх зараз.

Сваечасова разлічыць патрэбнасць у гэтых кніг кожнага сельсовета, сваечасова і акуратна (пад распіску) здаць і неадкладна сачыць за іх запаўненнем, вось гэта першыя ўмовы правільнага скарыстання і ўвядзення первічнага ўчота у сельсоветах.

*М.*

## Становішча первічнага учота ў Сельсоветах (выняткі з абследванняў райінспектур).

**Мозыр.** Абследвана тры с/советы, Мазырская райкантора Заготжывёлы і праізведзена праверка 8-і прадпрыемств па падрыхтоўцы да ўсесаюзнага перапісу прамабсталявання.

Аказалася: первічны учот па с/советам не впаўне дастатковы, не цалкам заведзен учот мясаздачы і др. Праца у к-ре Заготжывёлы па учоту вядзецца акуратна. Па прадпрыемствам падрыхтоўка да усесаюзнага перапісу вядзецца, зроблены акты з ацэнкай працы. Сельсоветам дадзены распараджэнні у трохдзенны тэрмін выпраміць учот па мясаздачам.

**Тураў.** Абследваны усе с/советы, кантора Заготжывёлы і к-ра Маслапрома, аказалася: праца па с/советам, за выключэннем аднаго („Азаронскага") па первічнаму учоту вядзецца не дрэнна. Азаронскаму с/совету зроблена распараджэнне да 30-VIII-1934 г. ліквідаваць недахоп.

Учот па к-ре „Заготжывёла" вядзецца акуратна і своечасова.

Па к-ре „Маслапром" гэта праца велася не дастаткова: У сельсоветы дасылаліся толькі спісы па недаімшчыкам, а план здатчыка і яго выкананне паказана не было. Па атрыманні адпаведных указанняў, недахоп гэты ліквідаван.

**Лоеў.** Абследвана тры с/советы па правядзенню працы первічнага ўчоту.

Знойдзена, што праца велася не дастаткова здавальняюча, былі ўхіленні ад інструктыўных указанняў пры запаўненні некаторых граф. Дадзены указанні для выпраўлення гэтых недахопаў.

**Орша.** Абследвана тры с/советы і тры прыема-здатачных пункта па Аршанскаму раёну. Знойдзена: што первічны учот як па с/с., гэтак і па прыема-здатачным пунктам вядзецца вельмі дрэнна, не заведзены кнігі ўчота, аб чым было пастаўлена пытанне перад РВК, апошнім дадзена распараджэнне усім с/советам аб неадкладным прывядзенні у належны парадак первічнага учота.

На прыема-здатачных пунктах квітанцыйная адчотнасць у хаотычным становішчы. Былі дадзены належныя указанні і аказана дапамога ў сэнсе прывядзення у парадак справы учоту.

**Карма.** Праверана і абследваны усі с/советы і заготканторы. Знойдзена, што як па с/советам, гэтак і па загот. канторам праца па учоту вядзецца здавальняюча, за выключэннем некалькіх с/советаў, дзе праводзілася, хаця і

сваечасова, але недбайна. Пры абследванні К-ры Маслапрома выяўлена, што атрыўныя лісты па ф. № 54-а у с/советы не дасылаліся.

Загадчык пры к-ры Маслапром паясніў, што такіх ён не атрымаў ад свайго цэнтру.

**Бялынічы.** Абследваны с/советы, заготпункты і к-ра „Маслапрома". Знойдзена наступнае: Першчны учот па с/советам вядзецца здавальняюча, сваечасова запаўняюцца кнігі па належным формам. Па заготпунктам, як па збожжанарыхтоўкам, гэтак і мясанарыхтоўкам праца ўчоту вядзецца акуратна.

Што датычыцца К-ры „Маслапрома", то гэта праца вядзецца недбайна, пры малакоздачы скарыстоўваецца не тая форма, якая трэбуецца па інструкцыі, замест ф. № 47 запаўнялась ф. № 10 мінулагодняя. Талоны ф. 54-а не дасылаюцца. Выявілась, што такія формы у раёне адсутнічаюць.

**Бешанковічы.** Абследвана 7 с/советаў, звернута галоўным чынам ўвага на першчны учот. Высветлена, што праца пастаўлена вельмі дрэнна. Сакратар аднаго с/совету аддадзены пад суд за заблытаннасць і халатнасць у справе учоту, двум старшыням с/советаў зроблены вымовы.

**Краснаполле.** Праверганы і абследваны м/совет і мясанарыхтоўчы пункт. Знойдзена, што праца па першчнаму учоту як у м/совеце, гэтак і на пункце вядзецца здавальняюча.

Разноска дакумэнтаў па кнігам праізводзіцца сваечасова і акуратна.

**Заслаўль.** Абследвана два с/совета і устаноўлена, што праца па першчнаму учоту вядзецца дрэнна, аб чым было пастаўлена на Прэзыдыуме РВК. Пастановай апошняга, старшыням і сакратарам гэтых 2-х с/советаў вынесена вымова, адначасова прапанована ўсім с/советам пад адказнасць сакратароў, на працягу дэкаднага тэрміну завесці сталы першчны учот, запоўнішы пагаспадарчыя кнігі ф. № 3 па ўсім відам нарыхтовак і абавязацельств.

**Віцебск.** Абследван адзін с/совет і знойдзена, што кнігі першчнага учота заведзены, былі недахопы па праводке некаторых дакумэнтаў і запаўнення граф. Зроблены належныя указанні для выпраўлення недахопаў.

**Сіроцін.** Абследвана 5 сельсоветаў і заготпункты. Знайдзена, што па 2-м с/советам першчны учот вядзецца здавальняюча, па кніге ф. № 3 па тром с/советам гэты учот праводзіцца па сшыткам. Па заготпунктам учот вядзецца, але у прыемаздатачным квітку не паказана веска здатчыка, а толькі с/совет. Такая устаноўка затрудняе працу с/совета.

**Прапойск.** Праверана і абследвана 6 с/советаў, К-ра „Маслапрома“ і К-ра „Заготжывёлы“. Высветлена, што па с/советам первічны учот вядзецца здавальняюча, справа-жа па малакоздачы і мясаздачы вядзецца не зусім добра, аб чым складзены акты і накіраваны у РВК. Пастановай апошняга прапанавана загадчыку маслапрома неадкладна выправіць памылкі і прывесці учот па належным формам.

**Чашнікі.** Правераны і абследваны с/советы. Высветлена, што у большасці с/советаў яшчэ не заведзены кнігі первічнага ўчота. Пытанне гэта пастаўлена перад РВК, апошнім разасланы адносіны па ўсім с/советам аб неадкладным правядзенні первічнага ўчоту.

Абследвана справаздачнасць аднаго соўгаса. Замечаны недахопы і несваечасовасць прадстаўлення форм справаздачнасці, напрыклад карткі па учоту труда за май і чэрвень м-цы прадстаўлены у жніўні м-цы.

**Любань.** Абследвана і праверана 6 с/советаў і К-ра „Заготжывёла“. Знойдзена, што па пяці с/советам праца па первічнаму учоту вядзецца здавальняюча, па аднаму с/совету у гэтым напрамку нічога не зроблена. Справа накіравана ў Райпракуратуру. Па заготпунктам былі недахопы, дзякуючы недбайнасці Райзага, у наступны момант недахопы выпраўлены.

**Касцюковічы.** Праверан і абследван учот і справаздачнасць аднаго калгаса „Калініна“. Высветлены недарэчнасці. Все збожжа праведзенае па дакумэнтам к-су, не знходзіцца з весам па квітам прыемных пунктаў. Ураджай бульбы не важыцца, а вес апрадзяляецца на глаз. Справа накіравана загачыку Райзо і Нач. МТС.

---

## Праца па адначасоваму выбарачнаму абследванню дыференцыацыі зарплаты у прамысловых сельска-гаспадарчых прадпрыемствах і будаўніцтвах БССР.

У мэтах атрымання матар‘яла, характарызуючага становішча зарплаты у прамысловасці, будаўнітве і саўгасах, неабходнага вышэйшым плануючым, гаспадарчым і прафсаюзным органам для рэгулявання зарплаты працоўных, ЦУНХУ Госплана СССР праводзіцца адначасовае выбарачнае абследавнне дыфэренцыацыі зарплаты у прамысловых і сельска-гаспадарчых прадпрыемствах і будаўніцтве БССР.

## I. Задачы і метады абследвання.

Абследавнне ставіць сваей задачай вывучэнне наступных пытанняў:

1. Размяркаванне работнікаў у прамысловасці, будаўніцтве і саўгасах па размерам зарабатка.

2. Узровень зарплаты паасобных прафесій па прадпрыемствам у тэрыторыяльным разрэзе.

3. Аплата жаночай працы у параўнанні з мужчынскай у цэлым па прадпрыемствам і па аднародным прафесіям і кваліфікацыям.

4. Зарабаткі рабочых па тарыфным разрадам; тарыфная аплата і прырабаткі у залежнасці ад сістэмы аплаты працы, склад часовага фонда зарплаты, дыференцыяцыя (размеркаванне) размераў зарабаткаў унутры паасобных прафесій і тарыфных разрадаў.

Абследваннем намечана ахапіць па прамысловасці БССР каля 35% агульнага ліку работнікаў буйнай прамысловасці усяго каля 30 тыс. работнікаў, у будаўніцтве каля 20% агульнага ліку прамыслова, камунальн. і культ. бытавога будаўніцтва, усяго каля 2,4 тыс. работнікаў.

Абследванне утвараецца спецыяльным персаналам рэгістратараў, набіраемых з сэктара учотна-статыстычнага і бухгалтэрскага персанала абследуемых прадпрыемств і аплачваемых за лік УНХУ і праводзяцца шляхам выбаркі данных з разлікова-платных дакумантаў на спецыяльные бланкі „А“, „Б“, „В“ і „Г“.

## II. Падрыхтоўчая праца на прадпрыемствах.

У мэтах забяспечэння поспеха працы намі і адпаведнымі наркаматамі даны указанні усім абследуемым прадпрыемствам зараз-жа прыступіць да падрыхтоўкі разліковых ведамасцяй за месяц абследвання з такім разлікам, каб усе неабходныя данные для запаўнення блянкаў „А“ „Б“ „В“ і „Г“ былі згрупіраваны у адным разлікова-плацежным дакумэнце, утварыць выпіску гэтых даных на адпаведныя блянкі.

Падрыхтоўка плацежна-разліковых ведамасцяй разліковымі аддзеламі прадпрыемств, буд. пляцовак і саўгасаў утвараецца строга у межах дасланай ім інструкцыі, копія інструкцыі даслана усім райінспектурам НГУ, на тэрыторыі якіх распаўсюджаны абследуемыя прадпрыемствы, будпляцоўкі і саўгасы.

## III. Тэрыторыя абследвання і разбіўка раёнаў на інструктарскія кусты.

Усяго па БССР падлягаюць абследванню 36 прампрадпрыемств, у тым ліку 15 вінзаводаў, 8 будпляцовак і 21 с/гасп. прадпр-в (саўгасы). Усяго 65 аб'ектаў.

Гэтыя прадпрыемствы размешчаны на тэрыторыі наступных адміністрацыйных раёнаў.

### 1-шы куст.

| | | |
|---|---|---|
| 1) Гомельскі | 8 | аб'ектаў |
| 2) Рэчыца | 1 | „ |
| 3) Уваравіцкі | 1 | „ |
| 4) Рэчыцкі | 1 | „ |
| 5) Рагачоўскі | 1 | „ |
| 6) Б. Кашалеўскі | 1 | „ |
| | 13 | „ |

### 2-гі куст.

| | | |
|---|---|---|
| 1) Віцебскі | 10 | аб'ектаў |
| 2) Дрысенскі | 1 | „ |
| 3) Полацкі | 2 | „ |
| 4) Гарадокскі | 1 | „ |
| | 14 | „ |

### 3-ці куст.

| | | |
|---|---|---|
| 1) Аршанскі | 1 | аб'ект |
| 2) Мсціслаўскі | 1 | „ |
| 3) Чэрыкаўскі | 1 | „ |
| 4) Чаўскі | 1 | „ |
| 5) Магілёўскі | 1 | „ |
| 6) Клімавіцкі | 2 | „ |
| 7) Касцюковіцкі | 3 | „ |
| 8) Быхаўскі | 1 | „ |
| 9) Горацкі | 1 | „ |
| 10) Чашніцкі | 1 | „ |
| | 13 | „ |

### 4-ты куст.

| | | |
|---|---|---|
| 1) Менскі | 10 | аб'ектаў |
| 2) Смолевіцкі | 1 | „ |
| 3) Дзержынскі | 2 | „ |
| 4) Заслаўскі | 1 | „ |
| | 14 | „ |

5-ы куст.

| | | |
|---|---|---|
| 1) Бабруйскі . . . . . . | 4 | аб'екты |
| 2) Слуцкі . . . . . . . . | 1 | „ |
| 3) Копыльскі . . . . . . | 1 | „ |
| 4) Глускі . . . . . . . . | 1 | „ |
| | 7 | „ |

Акрамя куставых інструктароў па буйных прадпрыемствах назначаюцца інструктары прадпрыемств: 1) Бабруйскі Дрэваапрацоўчы камбінат 2) чулочна-трыкатажная ф-ка „Кім“ 3) Швэйная „Сцяг індустрылізацыі“ і 4) Добрушская папяровая ф-ка „Герой працы“.

## IV. Падрыхтоўка разліковых ведамасцей на прадпрыемствах і тэрміны абследвання.

Падрыхтоўка разліковых ведамасцей на абследуемых прадпрыемствах пачынаецца зараз-жа і павінна быць закончана не пазней 10-12-га кастрычніка на будпляцоўках і соўгасах і не пазней 10-12 лістапада на прамысловых прадпрыемствах.

Само абследванне пачнецца на будпляцоўках і у соўгасах 12-га кастрычніка і павінна быць скончана, з падвядзеннем ітогаў не пазней 12-га лістапада, на прампрадпрыемствах абследванне пачынаецца 12-га лістапада і павінна быць скончана не пазней 12-га снежня (з падвядзеннем ітогаў).

Абследванне утвараецца на будаўніцтвах і ў соўгасах за верасень і на прампрадпрыемствах за кастрычнік м-ц 1934 года.

## V. Задачы райінспектур.

Райінспектуры раёнаў, у якіх маюцца падлягаючыя абследванню прадпрыемствы, абавязкова, па атрыманні інструкцыі і абразцоў бланкаў, павінны праверыць становішча падрыхтоўкі разліковых ведамасцей на кожным абследванным прадпрыемстве, будаўніцтве ці у соўгасе і падабраць кадры регістратараў з вучотна-статыстычнага і бухгалтарскага персанала для правядзення абследвання, кіруючыся пры гэтым численнасцю персанала на абследаанным прадпрыемстве, сярэдней нормай выпрацоўкі 1 рэгістратара у 100 аб'ектаў (прозвішч) і працягам абследвання 20-25 дзён.

Чысла 1-3 кастрычніка даслаць сектару працы інфармацыю, як праходзіць падрыхтоўка разліковых ведамасцей на прадпрыемствах і лік завербаваных рэгістратароў, і якія

мерапрыемствы ужываюцца райінспектарам для хутчэйшага заканчэння падрыхтоўчай працы кожным прадпрыемствам.

Падрыхтоўку разліковых ведамасцей кожнае прадпрыемства утварае сіламі уласнага учотна-статытычнага апарата.

Сродкі перасоўвання райінспектарам, у якіх маюцца аддаленныя ад райцэнтра прадпр-вы, падлягаючыя абследванню, будуць пераведзены КНГУ.

---

## Райінспектары, узначальце і арганізуйце работу ВОСУ!

Ускладненне ўсей учотнай работы ў раёне і вёсцы і значнае пасіленне адказнасці райінспектуры за гэтую справу абавязвае іх карэнным чынам перабудаваць існуючыя мэтады і ўсю арганізацыю работы раённага інспектара.

Роля раённага інспектара, як арганізатара ўчотнай справы, як змагара за верную палітычна-актуальную цыфру, як арганізатара ўчотнай грамадзкасці ў значнай ступені зараз узрастае.

Райінспектар павінен большую частку свайго часу праводзіць у с/совеце, у калгасах, на прадпрыемствах свайго раёну. Толькі пры жывой сувязі і жывой праверцы ўчотнай работы на мейсцох райінспектар можа выявіць усе выпадкі очкауціралельства, скажэнне ўчотных звестак, ведаць соцыяльна- палітычнае твар і кваліфікацыю ўчотных кадраў раёна, выявіць варожыя кадры і г. д.

У святле гэтых задач адмоўным момантам у рабоце многіх райінспектароў НГУ з'яўляецца недаацэнка значэння важнейшай для сыстэмы Наргасучота—масавай грамадзкай арганізацыі ў галіне соцыялістычнага ўчота, якой з'яўляецца ВОСУ.

Не гледзячы на шэраг дырэктыў КНГУ БССР большасцю райінспектароў да гэтага часу мала што зроблена па ўмацаванню раённых бюро ВОСУ, па скарыстанні іх для дапамогі і палепшання работы у сыстэме Наргасучота.

Ад інцыятывы, зацікаўленнасці і актыўнага ўдзелу раённага інспектара залежыць сапраўднае разгортванне у раёне шырокай орг. масавай работы у галіне сацыялістычнага ўчота і кантролю, шляхам стварэння моцнага актыва ў раённай арганізацыі ВОСУ.

Толькі паасобныя перадавыя райінспектары паказваюць прыклады зразумення ўсей палітычнай важнасці, актыўнага

уддзелу у разгортванні работы ВОСУ, мабілізацыі шырокай учотнай грамадзкасці на барацьбу за лепшую арганізацыю учота і справаздачнасці. Так, у Гомелі (райінспектар т. Флеер) у большасці прадпрыемств устаноў створаны ячэйкі ВОСУ, арганізаваны курсы па павышэнню кваліфікацыі рахунковых работнікаў, вядзецца падрыхтоўчая работа па правядзенню праверкі кваліфікацыі кіруючых работнікаў учота (у адпаведнасці з пастановай СНК БССР ад 12/IV-34 г.), устаноўлена сталае шэфства гарадзкіх учотных работнікаў над учотам у калгасах і г. д. У Бабруйску (райінспектар т. Леўковіч)—арганізацыя ВОСУ у асноўным разгортвае адпаведную працу.

Зараз працуюць курсы па павышэнню кваліфікацыі звыш 100 галоўных бухгалтароў і іх намеснікаў. На гэтыя курсы выязджаюць прафесарска-выкладчыцкія сілы з Менску. ВОСУ праяўляе шэраг ініцыятыўных мерапрыемств па ўцягненню учотнай грамадзкасці ў чарговыя гаспадарча-палітычныя кампаніі.

У нядаўна праведзеным дэкадніку па арганізацыі учота у калгасах і ўстанаўленні сталага шэфства над калгасамі з боку гарадзкіх работнікаў учота актыўны ўдзел, сумесна з райпрофсоветамі прынялі райінспектара такіх раёнаў, як Барысаў, Орша, Магілёў, Мазыр, Ельск, Парычы, Мсціслаўль і інш. На-жаль ад большасці райінспектароў не паступіла інфармацыі па гэтай справе, і відавочна, што гэтая адсутнасць інфармацыі характэрызуе бездзейнасць іх у гэтым важным пытанні.

З райінспектароў, недаацэньваючых арганізацыйна-масавую работу у галіне социялістычнага ўчота і тым самым праяўляючых пасіўнасць у справе умацавання раённых бюро ВОСУ, прыходзіцца асабліва паказаць на інспектароў прамысловых цэнтраў БССР, як т. Шмэтэр—Віцебск, т. Сомін—Орша, т. Зумент—Магілёў і інш. Прыведзеныя прыклады налажвання работы ВОСУ у Гомелі і Бабруйску паказвюць, што ніякіх спасылак на „аб'ектыўныя прычыны" тут не можа быць—і ўся справа залежыць ад актыўнасці і зацікаўленнасці раённага інспектара.

Спецыяльнай дырэктывай нам. нач. ЦУНХУ СССР і старшыні ЦБ ВОСУ і пры ВЦСПС т. Краваля (змешчана у інформ. бюлетэні КНГУ БССР № 21 за жнівень—стар. 5-6) па лініі органаў Народна-Гаспадарчага Учота была прапанавана прыняць неабходныя меры да ўмацавання арганізацыі ВОСУ і неадкладнага разгортвання іх работы.

Райінспектарам належыць неадкладна па сапраўднаму узяцца за гэтую справу. Арганізаваць раённыя аддзяленні ВОСУ там, дзе такавыя да гэтага часу яшчэ не існуюць.

У астатніх раёнах райінспектарам, выходзячы з мясцовых умоў, належыць неадкладна распрацаваць канкрэтныя меры да умацавання работы ВОСУ і да скарыстання гэтай арганізацыі ў рабоце сыстэмы Наргасучота. Райінспектары павінны асабіста прыняць актыўны ўдзел у рабоце арганізацыі ВОСУ, сыстэматычна весці нагляд і правяраць іх працу. Справа гонару кожнага райінсектара—актыўная і дзейная раённая арганізацыя Усесаюзнага Таварыства Соцыялістычнага Учота (ВОСУ).

*Красноперка.*

---

## Якасць работы Райінспектур

на 1 верасня 1934 г.

| №№ Катэгор. | Раёны: | Прарывы па работам: |
|---|---|---|
| 1 | Бешанковічы | Дынаміка буд. за 1 паўгоддзе. |
| 1 | Гомель | Вык. буд. за 2 квартал. |
| 1 | Ельск | Дынаміка буд. за 1 паўгоддзе. |
| 1 | Карма | Дынаміка буд. за 1 паўгоддзе. |
| 1 | Магілёў | |
| 1 | Орша | Натур. рух насельніцтва. |
| 1 | Парычы | Дынаміка буд. за 1 паўгоддзе |
| 1 | Тураў | Дынаміка буд за 1 паўгоддзе |
| 2 | Бабруйск | Аграэканамічны паспарт вык. буд. за 2 кв. Натур. рух насельніцтва. |
| 2 | Барысаў | Спіскі Прам. Прадпр. Натур. рух насел. |
| 2 | Быхаў | Дынаміка буд. за 1 паўгод., Натур. рух насельніцтва. |
| 2 | Бялынічы | Дынаміка буд. за 1 паўгоддзе. |
| 2 | Віцебск | Вык. буд за 2 кв., Натур. рух насельн. |
| 2 | Ветка | Дынаміка буд. за 1 паўгод., Натур. рух. насельніцтва. |
| 2 | Дрыса | Дынаміка буд. за 1 паўгод. Натур. рух насельніцтва. |
| 2 | Заслаўль | Дынаміка буд. за 1 паўгод., Натур. рух насельніцтва. |
| 2 | Крычаў | Дынаміка буд. за 1 паўгод., Натур. рух насельніцтва. |
| 2 | Любань | Дынаміка буд. за 1 паўгод., Натур. рух насельніцтва. |
| 2 | Лельчыцы | Дынаміка буд. за 1 паўгод., Натур. рух насельніцтва. |
| 2 | Мозыр | Дынаміка буд. за 1 паўгод., Натур. рух насельніцтва. |
| 2 | Мсціслаўль | Дынаміка буд, за 1 паўгод., Натур. рух насельніцтва, |
| 2 | Полацк | Аграэканаміч. паспарт. Дынаміка буд. за 1 паўг. Натур. рух насельн. |
| 2 | Расоны | Дынаміка буд. за 1 паўгод.. Натур. рух насельніцтва. |
| 2 | Рэчыца | Дынаміка буд. за 1 паўгод., Натур. рух насельніцтва. |
| 2 | Старыя Дарогі | " |
| 2 | Старобін | Дынаміка буд. за 1 паўгоддзе. |
| 2 | Слуцк | Дынаміка буд. за 1 паўгод.. Натур. рух насельніцтва. |
| 2 | Сенно | " |
| 2 | Талочын | Дынаміка буд. за 1 паўгоддзе. |

| №№ Катэгор. | Раёны: | Прарывы па работам: |
|---|---|---|
| 2 | Уваравічы | Дынаміка буд за 1 паўгод., Натур. рух насельніцтва. |
| 2 | Узда | Дынаміка буд. за 1 паўгод., Рэгістрацыя будаўн цтва. |
| 2 | Церэхаўка | Дынаміка буд. за 1 паўгод., Натур. рух насельніцтва. |
| 2 | Чэрыкаў | " |
| 2 | Шклоў | " |
| 3 | Асіпавічы | Спіскі Прам. Прадпр. Дынаміка буд. за 1 паўгод. Натур. рух насельніцтва. |
| 3 | Бягомль | Спіскі Прам. Прадпр., Дынаміка буд. за 1 паўгод., Натур. рух насельніцтва, рэгістрацыя будаўніцтва. |
| 3 | Брагін | Дынаміка буд. за 1 паўгод., рэгістрац. буд., Натур. рух насельніцтва. |
| 3 | Бярэзіна | Аграэканаміч. паспарт, спісак Прам. Прадпр. Дынааіка буд. за 1 паўгоддзе. |
| 3 | Буда-Кашэлёва | Дынаміка буд за 1 паўгод., рэгістр. буд., натур. рух насельніцтва. |
| 3 | Ушачы | Дынаміка буд., за 1 паўгод., рэгістр. буд., натур. рух насельніцтва. |
| 3 | Глуск | Спіскі прам. прадпр., дынаміка буд. за 1 паўгод., натур. рух насенільцтва. |
| 3 | Гарадок | Спіскі прам. прадпр., дынаміка буд. за 1 паўгод., натур. рух насельніцтва. |
| 3 | Дзяржынск | Аграэканамічны паспарт, дынаміка буд., рэгістр. буд., натур. рух насельніцтва. |
| 3 | Дуброўна | Спіскі прам. прадпр., дынаміка буд. за 1 паўгод., натур. рух насельніцтва. |
| 3 | Жыткавічы | Аграэканамічны пашпарт, дынаміка буд. за 1 паўгод., рэгістр. будаўніцтва. |
| 3 | Жлобін | Спіскі прам. прадпр., дынаміка буд. за 1 паўгод., натур. рух насельніцтва. |
| 3 | Касцюковічы | Спіскі прам. прадпр., дынаміка буд. за 1 паўгод., натур. рух насельніцтва. |
| 3 | Камарын | Дынаміка буд. за 1 паўгод., рэгістр. буд., натур. рух насельніцтва. |
| 3 | Клічаў | Дынаміка буд . за 1 паўгод., регістр. буд. натур. рух насельніцтва. |
| 3 | Копыль | Спіскі прам. прадпр., дынаміка буд. за 1 паўгод., натур. рух насельніцтва. |
| 3 | Лоеў | Аграэканамічны пашпарт, вык. буд. за 2 кв. дынаміка буд. за 1 паўгод., натур. рух насельніцтва. |
| 3 | Лагойск | Аграэканамічны пашпарт., дынаміка буд. за 1 паўгод.. рэгістрацыя буд. натур. рух насельніцтва. |
| 3 | Лезна | Аграэканамічны пашпарт, спіскі прам. прадпр дынаміка буд, за 1 паўгоддзе |
| 3 | Менск | Вык. буд. за 2 кв. рэгістр. буд. бюдж. рабочых. |
| 3 | Нароўля | Спіскі прам. прадпр.. дынаміка буд. за 1 паўгод., рэгістр. буд. натур. рух насельніцтва. |

| №№ Катэгор. | Раёны. | Прарывы па работам |
|---|---|---|
| 3 | Прапойск | Спіскі прам. прадпр., дынаміка буд. за 1 паўгод., рэгістр. буд. натур., рух насельніцтва. |
| 3 | Плешчаніцы | Дынаміка буд. за 1 паўгод., рэгістр. буд., натур. рух насельніцтва. |
| 3 | Петрыкаў | Дынаміка буд. за 1 паўгод., рэгістр. буд. натур. рух насельніцтва. |
| 3 | Рагачоў | Вык. буд. за 2 кв., дынаміка буд. за 1 паўгод. рэгістрацыя буд.. натур, рух насельніцтва. |
| 3 | Сураж | Аграэканамічны пашпарт, спіскі прам. прадпр. дынаміка буд. за 1 паўгод., натур. рух наніцтва. |
| 3 | Хойнікі | Аграэканамічны пашпарт, дынаміка буд. за 1 паўгод., рэгістр. буд. |
| 3 | Чэрвень | Вык. буд. за 2 кв., дынаміка буд. за 1 паўгод., рэгістр. будаўніцтва |
| 3 | Чачэрск | Аграэканаміч ы пашпарт, дынаміка буд. за 1 паўгод., натур. рух насельніцтва. |
| 3 | Чырвона-Слабодскі | Спіскі прам. прадпр., дынаміка буд. за 1 паўгод., натур. рух насельніцтва. |
| 3 | Чашнікі | Вык. буд. за 2 кв., дынаміка буд. за 1 паўгод., натур. рух насельніцтва. |
| 4 | Асвея | Спіскі прам. прадпр., дынаміка буд. за 1 паўгод., рэгістр. буд., натур. рух насельніцтва. |
| 4 | Горкі | Спіскі прам. прадпр., дынаміка буд. за 1 паўгод., рэгістр. буд. натур рух насельніцтва. |
| 4 | Крупкі | Аграэканамічны пашпарт, спіскі прам, прадпр., дынаміка буд. за 1 паўгод., рэгістрац. буд., натур. рух насельніцтва. |
| 4 | Клімавічы | Аграэканамічны пашпарт. дынаміка буд. за 1 паўгод., рэгістр. буд. натур. рух насельніцтва. |
| 4 | Краснаполле | Спіскі прам. прадпр., вык. буд. за 2 кв., дынаміка буд. за 1 паўгод., рэгістр. буд. натур, рух насельніцтва. |
| 4 | Лепель | Спіскі прам. прадпр., вык буд. за 2 кв., дынаміка буд. за 1 паўгод, натур рух насельн. |
| 4 | Пухавічы | Аграэканамічны пашпарт, вык. буд. 2 зв., дынаміка буд. за 1 паўгод., рэгістр. буд. натур. рух насельніцтва. |
| 4 | Сіроціно | Вык. буд. за 2 кв., дынаміка. буд за 1 паўгод., рэгістр. буд., натур. рух насельніцтва, |
| 4 | Смалявічы | Вык. буд. за 2 кв, дынаміка буд. за 2 паўгод., Рэгістр. буд., натур. рух насельніцтва. |
| 4 | Чаусы | Аграэканамічны пашпарт. спіскі прам. прадпр., дынаміка буд. за 1 паўгод., рэгістр. буд., натур. рух насельніцтва. |

Рэдкалегія: *Арцямкоў.*
*Голант.*
*Магідаў.*

Адказны рэдактар *В. Магідаў.*

